# НАВІНЫ



Акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў кастрычніку 1979 года ● № 6 (735) ● 18 лютага 1994 г. ● Цана 25 руб.


# БЕЛАРУСЬ НА ШЛЯХУ ДА НАВУКОВАГА СУВЕРЭНІТЭТУ

**РАНЕЙ за вучонымі ступенямі і званнямі ў Маскву ездзілі. Цяпер у беларускіх вучоных вось-вось з'явіцца іншая магчымасць: створаная паўтара гады таму пры Савеце Міністраў РБ Вышэйшая атэстацыйная камісія (БелВАК) заканчвае «нулявы цыкл» і гатова ўступіць у строй. Прапануем вашай увазе запіс гутаркі, праведзенай нашым карэспандэнтам з доктарам юрыдычных навук, прафесарам В. Г. ЦІХІНЯМ, намеснікам старшыні БелВАК.**

**— Валерый Гур'евіч, якім вы бачыце крызіс у навуцы?**

— Фінансаванне навукі зменшылася з 4 працэнтаў ад аб'ёму нацыянальнага даходу ў 1990 г. да прыкладна 1 працэнта ў 1993г. Ідзе таксама працэс скарачэння колькасці навукоўцаў — з акруглена 100 тысяч да прыблізна 70 тысяч за той жа перыяд (усё-такі не 53 тысяч, як памылкова было ўказана ў адной з публікацый). Беларусь жа на карысныя выкапні не багатая, ёй у першую чаргу навуку трэба развіваць, няма на што больш рабіць стаўку.

І стаўка немалая. Па сутнасці, навука — гэта той лакаматыў, які здольны ўсю дзяржаву перавесці са станцыі «Эканамічны крызіс» на станцыю «Дабрабыт». На жаль, з палівам для лакаматыва зараз дрэнна...

Для мяне самы выразны паказчык крызісу — колькасць абарон дысертацый. Вось лічбы. У 1991 г. у рэспубліцы абаронена 185 доктарскіх дысертацый, у 1992 — 160, у 1993 — каля 110. Адпаведныя даныя па кандыдацкіх дысертацыях: 740, каля 600 і каля 500. Ёсць і іншыя «балючыя» лічбы. Сярод дактароў навук 80 працэнтаў — людзі пенсіённага і перадпенсіённага ўзросту. Сярэдні ўзрост беларускага кандыдата навук — 45 год, доктара — 55.

**— У чым, на ваш погляд, прычыны крызісу?**

— Скараціўся прыток маладых людзей у навуку. Ідзе адток таленавітых вучоных у камерцыйныя структуры. Скарачаецца таксама прыём у вну рэспублікі: з 30 тысяч у 1991 г. да 20 тысяч у 1993. Старэе навуковае абсталяванне, якое няма магчымасці абнаўляць. Наступае інфармацыйны голад з-за разарванасці калісьці адзінай навукова-інфармацыйнай прасторы. І, як адлюстраванне крызісу,— колькасць пададзеных заявак на вынаходствы: 8 тысяч у 1990 г. — і некалькі больш за 800 у 1993. Амаль у дзесяць разоў менш.

**— «Уласная» Атэстацыйная камісія — гэта б падштурхнула навуковы працэс. Ці гатовы вы ўжо разглядаць справы па дысертацыях? Пытаюся, бо ў друку было неяк упамінанне аб пачатку работы БелВАК з новага года.**

— «З новага года» — гэта фантазія карэспандэнта, які браў інтэрв'ю ў акадэміка А. П. Дастанкі, старшыні БелВАК. У нас пакуль што не гатовая поўнасцю нарматыўна-прававая база, якая б рэгламентавала нашу дзейнасць. А вось з красавіка разлічваем пачаць.

**— Чым яшчэ, акрамя дысертацый, будзе займацца БелВАК?**

— Стварэннем нацыянальнай базы даных аб навуковых работніках. Прагназіраваннем патрэбнасцей рэспублікі ў навуковых кадрах найвышэйшай кваліфікацыі. Інспектаваннем саветаў па абароне дысертацый. Настрыфікацыяй (г. зн. перaафармленнем) дыпломаў, выдадзеных па-за межамі рэспублікі.

**— Нейкі час здавалася, што ў нас будзе прынята дзвюхступенная сістэма: «доктар галіны навукі» і «доктар навук». Яна многім спадабалася, асабліва кандыдатам навук і саіскальнікам гэтага звання. Чаму ад яе адмовіліся? Яна б наблізіла нас да Еўропы.**

— Па-першае, не ва ўсіх краінах Еўропы толькі дактары, ёсць і кандыдаты таксама. А галоўнае тое, што мы значна больш уключаны ў навукова-інфармацыйную прастору СНД. Да таго ж Беларусь стала членам МАГАТ, інакш кажучы, Міжнароднай асацыяцыі дзяржаўных органаў атэстацыі. У МАГАТ увайшлі ўсе краіны СНД, акрамя Арменіі, Грузіі і Таджыкістана. Там ва ўсіх, акрамя Малдовы, прынята: «кандыдат» і «доктар». Таму такі варыянт спрашчае настрыфікацыю дыпломаў унутры СНД.

**— Недавер да ўлады ўвогуле распаўсюджваецца і на БелВАК, што праяўляецца нават і так: «А, яшчэ адна бюракратычная структура!» Як вы збіраецеся процістаяць «забюракрачванню» свайго ведамства?**

— Гэта хвароба нам не пагражае. 56 найбуйнейшых навукоўцаў Беларусі, што ўтварылі БелВАК, яны ж усе — на грамадскіх асновах. Сам жа апарат надта невялікі — 29 чалавек на 5 аддзелаў: 3 — атэстацыйныя (па гуманітарных, тэхнічных і прыродазнаўчых навуках) і 2 — арганізацыйныя (навукова-метадычны і агульны).

**— На якіх мовах можна будзе прадстаўляць дысертацыі на абарону?**

— Гэта пытанне ўважліва вывучалася навуковай грамадскасцю і на І Пленуме БелВАК, што адбыўся 16 лістапада летась. Мы прыйшлі да такой высновы: «Дысертацыя можа быць падрыхтавана на беларускай мове ці на іншай мове народаў Беларусі».

**— Ці будзе ваша Камісія займацца прысуджэннем вучоных званняў прафесара і дацэнта?**

— Не. У нашай рэспубліцы гэта ў кампетэнцыі Атэстацыйнай калегіі пры Міністэрстве адукацыі. Што азначае, канешне, разарванасць нацыянальнай сістэмы атэстацыі.

**— Якая геаграфія саветаў па абароне дысертацый? Як часта дысертантам-немінчанам прыйдзецца ездзіць абараняцца ў Мінск?**

— Зараз дзейнічаюць 123 саветы, з якіх 59 доктарскія, 64 — кандыдацкія. Большая частка, канешне, у Мінску: 111. У Гомелі ёсць 3 саветы, у Жодзіна таксама 3, 2 — у Віцебску. Але ніводнага савета няма ў Брэсце, Гродне, Магілёве.

Будзем шукаць аптымальны варыянт размяшчэння саветаў. Тым больш, што тыя, якія існуюць, маюць права прымаць дысертацыі толькі па 185 спецыяльнасцях (г. зн. 36 працэнтаў ад агульнай колькасці спецыяльнасцей — 512).

**— Якая раскладка саветаў па гуманітарных, тэхнічных і прыродазнаўчых навуках?**

— У працэнтах адпаведна: 15,5; 52 і 32,5.

**— Ці ёсць у вас ужо прыкідкі, колькі часу дысертантам прыйдзецца чакаць рашэння БелВАК па іх працах?**

— У параўнанні з тым, што было ў ВАК СССР, тэрміны скарацяцца. Па доктарскіх дысертацыях — з 8 месяцаў да пяці — шасці, па кандыдацкіх — з чатырох да трох.

**— Ці могуць у склад саветаў па абароне дысертацый уваходзіць вучоныя з блізкага і далёкага замежжа?**

— Так, падрыхтаваныя нарматыўныя акты такую магчымасць прадугледжваюць.

**— Як будуць выглядаць дыпломы дактароў і кандыдатаў навук, атрыманыя ў Беларусі?**

— Яны будуць упрыгожаны беларускай нацыянальнай сімволікай. А тэкст, які будзе пацвярджаць навуковую ступень, вырашана даваць па-беларуску, па-руску і па-англійску.

**— Дзякую вам за цікавую гутарку. Будзем спадзявацца, што сказаныя вамі словы заахвоцяць многіх навукоўцаў аформіць завершаныя даследаванні ці завяршыць незакончаныя. І што першага беларускага дыплома аб вучонай ступені, які засведчыць таксама навуковую суверэннасць Беларусі, засталося ўжо нядоўга чакаць.**

Гутарку вёў
Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.

# Павучыцца ў вынаходніцкай машыны

**1—2 лютага ў Мінску ў памяшканні Нацыянальнага інстытута гуманітарных навук праходзіў навукова-практычны семінар «Сістэмны падыход да развіцця творчых здольнасцей студэнта ў вну». Яго арганізавала навукова-даследчая лабараторыя вынаходніцкіх машын «ВМЛаб». Слова камерцыйнаму дырэктару «ВМЛаб» І. А. Кавалёву.**

— Арганізуючы семінар, мы ставілі тры мэты: 1) пашырыць абмену вопытам тым, хто ўжо выкарыстоўвае праграму «Вынаходніцкая машына», 2) зацікавіць структуры Міністэрства адукацыі выкарыстаннем распрацовак «ВМЛаб» у педагагічным працэсе, 3) аформіць арганізацыйна той «нябачны каледж» педагогаў, што выкарыстоўваюць метады тэорыі рашэння вынаходніцкіх задач (ТРВЗ) у сваёй працы.

**— Наколькі гэтыя мэты дасягнуты?**

— Мяркуйце самі. На семінар прыехалі прадстаўнікі 47 вну Беларусі, Расіі, Украіны, Чэхіі, Эстоніі. 80 працэнтаў дакладаў датычылася абмену вопытам так ці інакш. Удзел у ім прынялі начальнік упраўлення вну і педадукацыі Т. Я. Галко і начальнік упраўлення навукі Міністэрства адукацыі С. С. Вятохін. Прынята рашэнне — стварыць асацыяцыю педагогаў, што выкарыстоўваюць метады ТРВЗ у навучанні. Мы разлічваем на тое, што пасля апрацоўкі нашых метадаў у базавых вну — Беларускай палітэхнічнай акадэміі і ў Гомельскім палітэхнічным інстытуце — яны ўвайдуць як аснова ў абавязковы курс «Метады тэхнічнай творчасці». У бліжэйшых планах лабараторыі — стварэнне цэнтраў павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў вну.

У. ТРАЦЦЯКОЎ.

ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?

# Аншлаг на сустрэчы з апазіцыяй

10 лютага ў актавай зале Інстытута гісторыі АН Беларусі адбылася сустрэча супрацоўнікаў акадэміі з народнымі дэпутатамі рэспублікі З. С. Пазьняком і В. Ф. Голубевым. Цікавая акалічнасць: яшчэ не пачалася сустрэча, а ў зале не было свабодных месцаў, многія стаялі ў праходзе...

Першым выступіў Валянцін Голубеў, які працуе ў Вярхоўным Савеце сакратаром камісіі па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях. Ён пачаў з таго, што расказаў пра рэакцыю палітычных колаў свету на апошнія падзеі ў Беларусі. У сваіх каментарыях яны не выключаюць магчымасці ўсталявання ў рэспубліцы аўтарытарнага камуністычнага рэжыму. Пра сённяшнія стасункі Беларусі і Расіі Валянцін Фёдаравіч сказаў, што апошняя ўключае нашу краіну ў кола сваіх інтарэсаў: міністр замежных спраў Козыраў адкрыта гаворыць, што колькі б не каштавала Расіі далучэнне Беларусі, яна пойдзе на гэтыя выдаткі. З Расіяй неабходна супрацоўнічаць, заявіў Голубеў, але супрацоўнічаць трэба з дэмакратамі, а не тымі палітыкамі, што не хочуць прызнаваць свабодную і незалежную Беларусь. На думку Голубева, плануемыя перастаноўкі ва ўрадзе будуць касметычнымі і не прывядуць да яго структурнай перабудовы. А да чаго можа прывесці аб'яднанне міністэрстваў інфармацыі і культуры, на чале якога Кебіч хоча паставіць усім добра вядомага Івана Антановіча, няцяжка і прадказаць. Закрануў у сваім выступе дэпутат Голубеў іншыя праблемы (аб'яднанне грашовых сістэм, праблему прэзідэнцтва...), адказаў на шматлікія пытанні прысутных.

Пасля гэтага слова ўзяў Зянон Пазьняк. «Беларусь,— пачаў ён,— перажывае зараз адзін з самых цяжкіх перыядаў у сваёй гісторыі. Яго можна параўнаць толькі з перыядам канца XVIII стагоддзя, калі адбываўся падзел Рэчы Паспалітай, і наша Бацькаўшчына была далучана да Расійскай імперыі. Падобнае адбываецца і зараз...» Цяперашняя інкарпарацыя Беларусі ў Расію, па словах Зянона Станіслававіча, адбываецца пад шыльдай эканамічных пагадненняў.

Затым спадар Пазьняк перайшоў да аналізу эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы і той эканамічнай палітыкі, што праводзіць урад Кебіча. У свой час Беларусь мела самыя спрыяльныя ўмовы для рыначных пераўтварэнняў. Пачынаць якія трэба было з увядзення нацыянальнай валюты яшчэ ў 1991 г. Але ўрад, у якім сёння знаходзяцца самыя рэакцыйныя людзі, нічога не рабіў: ён чакаў, што зробіць Расія, каб потым паўтарыць яе крокі. Яшчэ Кебіч многа абяцаў: і наладзіць выпуск беларускага аўтамабіля, і «заліць» не толькі Беларусь, а ўвесь свет, фірменнай гарэлкай, і... Яму, як не дзіўна, верылі, хоць і разумелі, што ўсяго гэтага не будзе. А калі трэба было адказваць за развал эканомікі, то ён спасылаўся і на развал СССР, і на дэзінтэграцыю эканамічных сувязей. Карацей кажучы, павінны ўсе, толькі не ўрад.

Спыніўся Зянон Станіслававіч і на праблеме аб'яднання грашовых сістэм. Ён заявіў, што ўсе эканамісты, як з беларускага, так і з расійскага боку, бачаць бесперспектыўнасць такога аб'яднання і яго пагубнасць для эканомікі рэспублікі. Пазьняк прывёў у прыклад артыкулы дырэктара Інстытута эканомікі АН РБ Лыча ў «Народнай газеце», у якіх аўтар, прафесійны і вопытны эканаміст, паказаў, да чаго прывядзе так званае аб'яднанне.

Выказаў лідэр БНФ свае меркаванні па шляхах выйсця Беларусі з цяжкага крызісу. На яго думку, без палітычных змен — адстаўкі ўрада і новых дэмакратычных выбараў у Вярхоўны Савет — не пройдуць ніякія эканамічныя пераўтварэнні. Першачарговымі эканамічнымі мерамі З. Пазьняк лічыць: увядзенне нацыянальнай валюты і праводзенне ўласнай крэдытна-фінансавай палітыкі; структурную перабудову эканомікі, яе пераарыентацыю на патрэбы Беларусі; вырашэнне пытання з энерганосьбітамі — трэба знаходзіць іншыя рынкі энергарэсурсаў. І яшчэ, заявіў Пазьняк, эканамічная палітыка павінна быць сацыяльна арыентаванай. Дзяржава павінна сур'ёзна заняцца праблемамі маладой сям'і, бо зараз ідзе выраджэнне беларускай нацыі, і падтрымкі пенсіянераў, якія найбольш пацярпелі ад эканамічнай палітыкі ўрада...

Гаварыў Пазьняк і пра апошнія палітычныя падзеі на Беларусі, і пра маючы адбыцца страйк, і пра асабістую сустрэчу з Клінтанам. Пытанням, якія задавалі супрацоўнікі Акадэміі навук, не было б і канца, калі б не позні час. Але і пасля заканчэння сустрэчы яшчэ доўга ад Зянона Станіслававіча Пазьняка не адыходзілі людзі: задавалі пытанні, выказвалі свае меркаванні. Такое сёння жыццё, што палітыка вырашае ўсё, і нікуды ад яе не дзецца.

Алесь ЮРЫН.

# ПРАЕКТ НАДЗЕІ НАШАЙ

У канцы 1992 г. Рэспубліка Беларусь атрымала грант (1 мільён募 доляраў ЗША) Сусветнага Фонду навакольнага асяроддзя для ажыццяўлення праекта «Захаванне біялагічнай разнастайнасці лясоў». Гэты праект будзе першым этапам новага комплексу мерапрыемстваў, накіраваных на ахову лясных экасістэм краіны, якія знаходзяцца пад пагрозай знікнення. Асноўная ўвага праекта надаецца праграмам захавання біяразнастайнасці асноўных лясных супольнасцей Белавежскага Першабытнага лесу (Белавежскай пушчы).

Дзякуючы размяшчэнню пушчы на скрыжаванні Заходняй і Цэнтральнай Еўропы ў ёй развівалася незвычайна багатая біясупольнасць, што ўключае больш за 900 відаў вышэйшых раслін. 223 віды птушак і 55 — млекакормячых. На яе тэрыторыі 16 відаў лішайнікаў, 7 — грыбоў, 4 — моху, 40 — вышэйшых раслін, 5 відаў млекакормячых, 34 — птушак, 2— паўзуноў, 1 — земнаводных, 2 — рыб, 6 відаў насякомых, якія занесены ў Чырвоную кнігу РБ. Белавежская пушча ўяўляе сабой таксама надзвычайную каштоўнасць у экалагічным дачыненні, бо знаходзіцца на мяжы пашырэння колькіх важных лесаўтваральных драўнінных парод.

Не будзем скідаць пушчу з рахунку і як натуральную лабараторыю. Яе неабходна скарыстаць для распрацоўкі комплексных мерапрыемстваў па аднаўленню прыродных рэсурсаў і змякчэнню неспрыяльных фактараў у іншых рэгіёнах Беларусі. Міжнародны характар пушчы і важнасць каардынаванага кіравання робяць з Нацыянальнага парку каштоўную мадэль для забеспячэння захоўвання транснацыянальных рэсурсаў.

Узяць, напрыклад, тое ж кіраванне сезоннымі міграцыямі, захоўваннем месц знаходжання шэрагу раслінных супольнасцей. Калі ў межах Белавежы такія меры рэалізуюцца, то гэтага не скажаш пра тэрыторыі па-за Абсалютна-запаведнай зонай пушчы. Нават у самой пушчы некаторыя драўнінныя пароды, асобныя дрэвы, расліны з групы падлеска, а таксама спадарожная для іх фауна не пазбаўлены ад небяспекі знікнення.

Думаецца, няма неабходнасці ўдавацца ва ўсім вядомыя экалагічныя анамаліі антрапагеннага характару, якія сур'ёзна дэстабілізуюць склад і структуру біялагічных сістэм.

Увасабленне ў жыццё названага праекта стане краевугольным каменем рэалізацыі доўгачасовай праграмы Беларусі па ахове лясных экасістэм. Выбар паркаў і запаведнікаў у праекце грунтуецца на пэўных прыярытэтах у ахове прыроды на запаведных тэрыторыях і магчымасці іх выкарыстання як эталонаў.

Праект для забеспячэння аховы жыццяздольнага і ўстойлівага лесу прадугледжвае дзейнасць па дзевяці накірунках. Гэта, перш за ўсё, планаванне прыродаахоўных мерапрыемстваў, якое прадугледжвае ізаляцыю і абарону ахоўваемых участкаў рэліктавых лясных экасістэм ад несумяшчальных спосабаў землекарыстання і выпадковага пранікнення экзатычных відаў. Яно таксама забяспечыць прадаўжэнне існавання такіх мясцовых відаў, як зубр, воўк, прадстаўнікоў арнітафауны, што распаўсюджаны і за межамі Абсалютна-запаведнай зоны. У адпаведнасці з прынцыпамі Праграмы ЮНЕСКА «Чалавек і біясфера» (МАВ), будуць старанна сплынаваны і абгрунтаваны ў адведзеных зонах віды землекарыстання, што не шкодзяць прыродным экасістэмам і дазволяць мясцоваму насельніцтву весці прыбытковую гаспадарчую дзейнасць.

Пашырэнне ахоўваемых плошчаў, па-другое, будзе рабіцца для захоўвання найбольш рэдкіх рэліктавых супольнасцей у самім Нацыянальным парку.

Далей праект мае на ўвазе прыкладныя навуковыя даследаванні жывёльнага свету пушчы, у першую чаргу, праблему захворвання зуброў як прыярытэтную, паколькі існуе відавочная пагроза катастрафічнай страты сімвала Белавежы.

Астатнія накірункі тычацца: прымянення цяперашняй методыкі ацэнкі ўздзеяння на навакольнае асяроддзе, што гарантуе правільнае выкарыстанне лясных рэсурсаў у зоне кіруемай аховы і ахоўнай зоне; арганізацыі навуковага супрацоўніцтва з польскімі навукоўцамі па пытаннях кіравання лесам і даследаванняў у пушчы; пашыранага выкарыстання экалагічна абгрунтаваных спосабаў вядзення сельскай гаспадаркі ў межах Нацыянальнага парку; стварэнне Фонду Белавежскай пушчы і іншых запаведнікаў дзяржавы, заклікanага садзейнічаць прытоку сродкаў, што паступаюць па лініі пераводу экалагічнага доўгу, рознага роду ахвяраванняў, і матэрыяльна дапамагаць у будучай навукова-даследчай і практычнай рабоце; стварэння Геаграфічнай інфармацыйнай сістэмы (ГІС), гэткай жа, што існуе на Захадзе для кіравання лясной гаспадаркай; вырашэння задач аховы навакольнага асяроддзя і рацыянальнага выдаткавання прыродных рэсурсаў і для навуковых мэт.

Рэалізацыі праекта павінна садзейнічаць ужо створанае падраздзяленне сакратарыята Праграмы МАВ ЮНЕСКА, чыя мэта — арганізацыя кантролю і каардынацыі ўсіх навуковых і практычных дзеянняў, пашырэнне інфармавання, прыцягненне мясцовага насельніцтва да прыродаахоўных мерапрыемстваў, падтрыманне стасункаў з адпаведнымі міжнароднымі арганізацыямі. Нельга пераацаніць і значэнне таго, што не так даўно Кансультатыўны камітэт па біясферных запаведніках і бюро Каардынацыйнага савета Міжнароднай праграмы МАВ ЮНЕСКА прынялі рашэнне аб прыданні Нацыянальнаму парку «Белавежская пушча» статусу біясфернага запаведніка. Гэта ўзнімае міжнародны аўтарытэт і ролю нашага нацыянальнага здабытку, стане спрыяльнай умовай для пашырэння стасункаў паміж навукоўцамі, абмену навуковай інфармацыяй у планетарным маштабе. І, вядома ж, вылучае перад намі шэраг новых прыродаахоўных задач.

Работа над увасабленнем грандыёзнага праекта можа быць паспяховай толькі пры аб'яднанні намаганняў усіх маючых да гэтага дачыненне навукоўцаў, практыкаў, наогул зацікаўленых у лёсе свайго роднага краю людзей. І таму паміж Белавежай, Бярэзінскім біясферным і Прыпяцкім ландшафтна-гідралагічным запаведнікамі наладжваецца ўзаемадзеянне па шасці першаступенных навуковых і арганізацыйна-тэхнічных пазіцыях. За ажыццяўленне наспелых праблем бяруцца спецыялісты і навукоўцы 26 арганізацый Беларусі: інстытуты АН, НДІ эксперыментальнай ветэрынарыі, БДУ, БДТУ, Гідраметцэнтр, Гіправодгас, калгас «Паграннічнік» і г. д.

Праект дае ўнікальную магчымасць аднавіць генетычную ўстойлівасць і невычарпальнасць беларускага лесу, тым самым і яго прадукцыйнасць у поўным аб'ёме. Яго рэалізацыя — зарука захавання жамчужыны Беларусі, аднаго з унікальнейшых куткоў Еўропы — Белавежскай пушчы.

**У. ТОЛКАЧ,**
**тэхнічны дырэктар праекта, кандыдат сельскагаспадарчых навук;**
**П. ПАРФЁНАЎ,**
**сакратар Праграмы ЮНЕСКА МАВ праекта, кандыдат біялагічных навук.**



# Калектыў, які дарыць людзям кнігі

АПОШНІ час не раз даводзілася чуць скаргі ў бок друкарні імя Ф. Скарыны. Затрымліваецца выхад часопіса альбо кнігі — паўзуць чуткі: зноў друкарня нічога не робіць... Пра іншых «стрэлачнікаў» пакуль, прынамсі не чуў.

Каб разабрацца на месцы ў сутнасці справы, сабраліся з фотакарэспандэнтам і паехалі прама ў друкарню. Вырашылі: знойдзем вінаватых, не толькі «прапішам» іх, але і «прафатаграфуем». На шчасце, вінаватых мы не знайшлі і знайсці не маглі — працуе друкарня добра, тыднямі не прастойвае без работы, абавязкі свае выконвае. «Бывае, праўда, друкарня і затрымлівае выпуск таго ці іншага выдання,— гаворыць начальнік вытворчага аддзела Л. В. Безансон.— Толькі звязана гэта з перабоямі ў пастаўках камплектуючых вырабаў: афсетных пласцін, плёнак і інш. Але каб затрымка адбывалася па віне саміх работнікаў, такога не бывае...»

Падстаў не верыць Людміле Вільгельмаўне няма ніякіх. Прайшоўшыся па цэхах друкарні, мы ўбачылі, што работа ў іх ідзе сваім парадкам. Рукапіс з выдавецтва трапляе ў наборны цэх. Набраны на плёнку, ён вычытваецца і правіцца ў выдавецтве і толькі потым ідзе ў друк. Калі тыраж невялікі, то кніга ці часопіс друкуюцца высокім спосабам, які ўжо даўно састарэў, але з-за невялікага сябекошту яшчэ не адышоў у нябыт. Больш дарагі афсетны спосаб выкарыстоўваецца пры друкаванні вялікіх тыражоў, а таксама для плакатнай і рэкламнай прадукцыі. Аддрукаваныя лісты фальцуюцца (складваюцца) на машыне, затым ідуць у пераплётна-брашурны цэх і, нарэшце, трапляюць на склад гатовай прадукцыі. Увесь тэхналагічны працэс доўжыцца ад двух да шасці месяцаў.

...Збіраліся мы ў друкарню, каб выявіць прошукі «ворагаў друкаванай прадукцыі», а на справе пазнаёміліся з нармальным калектывам, вынікам чаго стаў фотарэпартаж з жыцця невялікага прадпрыемства — друкарні імя Ф. Скарыны.

**Аляксандр ЮРЫН.**

**НА ЗДЫМКАХ: на камп'ютэрным наборным участку І. А. ПАЎЛОВІЧ, В. М. БІЛЬ, П. В. ВАЛЫНЕЦ, Т. Ю. МАКАРАВА; капіравальшчык Ю. В. ЯГОРАЎ і мантажніца Н. П. РАКІЦКАЯ рыхтуюць да друку чарговае выданне; у друкарскім цаху.**

**Фота М. БУДЧАНІНА.**

## Цыгарэта ў модзе

Колькасць курцоў у Кітаі значна пераўзыходзіць усё насельніцтва Злучаных Штатаў, ушчыльную наблізіўшыся да 300 мільёнаў чалавек.

Перыядычныя прапагандысцкія кампаніі і абвяшчэнне шэрагу дзяржаўных устаноў зонамі для тых, хто не курыць, канстатуе пекінская «Цзінцзі жыбао», не бянтэжаць мясцовых курцоў, якія працягваюць са здавальненнем зацягвацца дымам.

Хто найбольш церпіць ад шкоднай звычкі, дык гэта так званыя пасіўныя курцы, якія часцяком аказваюцца ў прыгнятальнай меншасці на працы і за банкетным сталом, вымушаныя супраць волі ўдыхаць згубны дым. Паскардзіцца няма каму: цыгарэта лічыцца ў Кітаі модным аксесуарам жыцця.

*НЕЧАКАНЫ РАКУРС*

# Улада як тэхнічная канструкцыя

***ВІЗІТНАЯ КАРТКА.** Анатоль Іванавіч Дабралюбаў — доктар тэхнічных навук, прафесар, загадчык лабараторыі мадэлявання электрамеханічных сістэм Інстытута тэхнічнай кібернетыкі АН Беларусі. А пачынаўся яго шлях у галіну дакладных навук — механікі, кібернетыкі, камп'ютэраў, геафізікі — з таго, што пасля заканчэння з адзнакай Беларускага палітэхнічнага інстытута (цяпер — палітэхнічнай акадэміі), ён працаваў на Мінскім падшыпнікавым заводзе інжынерам-механікам. Здатнага маладога спецыяліста на прадпрыемстве адразу заўважылі. Ужо праз чатыры гады пасля вучобы ён займаў пасаду галоўнага механіка, не прапусціўшы пры гэтым ніводнай прыступкі ў службова-тэхнічнай іерархіі.*

*А яшчэ праз год яго запрасілі навуковым работнікам у Інстытут машыназнаўства і аўтаматызацыі Акадэміі навук, ад якога потым адгалінавалася навукова-даследчая ўстанова, дзе ён працуе дагэтуль.*

*Кола навуковых інтарэсаў Анатоля Іванавіча, і без таго дастаткова шырокае, не вычэрпваецца, аднак, гамай дысцыплін, пералічаных вышэй. Пра гэта сведчыць і новая, нядаўна напісаная ім праца, здадзеная ўжо ў выдавецтва «Навука і тэхніка». Мяркуемы выхад яе ў свет — другі квартал гэтага года. Называецца кніга «Дзяржаўная ўлада як тэхнічная сістэма».*

***Згадзіцеся, гучыць настолькі неардынарна, што не можа не зацікавіць. Палітычную ўладу можна разглядаць з розных бакоў, пад рознымі ракурсамі. Але скрозь прызму тэхнічных навук?! Раней для гэтага існаваў ужо гатовы ярлык: механістычны погляд. Што было рызыкоўна і для далейшай навуковай кар'еры, а ў часы культу асобы небяспечна і для жыцця, зрэшты, усё гэта было ў нас. З-за мяжы ж да нас іншы раз нешта такое даносілася...***

***І вось у рэдакцыі мы гутарым з Анатолем Іванавічам ДАБРАЛЮБАВЫМ.***

**— Як вы прыйшлі да стварэння сваёй кнігі?**

— Кажуць, што ўсякая навука пачынаецца з імкнення зразумець і вытлумачыць незразумелае, парадаксальнае. Напрыклад, сучасная навука — механіка ўзнікла са спроб Галілея і Ньютана вытлумачыць парадокс: чаму ўсе целы — і цяжкія, і лёгкія — падаюць уніз з аднолькавым паскарэннем.

Для мяне доўгі час заставаўся невысветленым такі парадаксальны факт сацыяльнага жыцця: як адзін чалавек набывае неабмежаваную ўладу над тысячамі і мільёнамі падобных сабе, а часам і дужэйшых, больш здатных за яго людзей. Прычым, у сілу прафесіі, мяне цікавіў механічны, інжынерны аспект гэтай з'явы, так мовіць, тэхніка, методыка, законы.

На працягу ледзь не 20 гадоў я рабіў нататкі на гэтую тэму, збіраў і запісваў вытрымкі з прац розных аўтараў і г. д. Дапамагла тут і гісторыя XX ст. Яна дала багаты фактычны матэрыял пра гіганцкія «эксперыменты» над цэлымі народамі, аплачаныя безліччу жыццяў, выявіла прыклады пабудовы абсалютнай, дыктатарскай дзяржаўнай улады асобамі, якія не адолелі і школьных курсаў навук.

Як, якім чынам маглі яфрэйтар або недавучка-семінарыст уладарыць над велізарнай колькасцю не абы якіх — выдатных людзей: генералаў, бясстрашных рэвалюцыянераў, што прайшлі турмы і ссылкі, прафесараў і акадэмікаў? Што садзейнічала такому, параўнальна лёгкаму і хуткаму ўзыходжанню тыранаў на недасягальныя вышыні ўлады? Няўжо гэта былі іхнія асабістыя якасці, іхняя геніяльнасць? Ці тут працуюць на іхнюю карысць яшчэ сёння слаба вывучаныя ці наўмысна скрытыя ад нас законы збудавання пірамід дыктатарскай улады? Менавіта тэхналогіі пабудовы, жыцця і разбурэння гэтых пірамід і прысвечана мая кніга.

**— У час савецкага сацыялізму вы ніяк не маглі публічна выказаць свой погляд на праблему...**

## Няўжо Беларусь на пярэднім краі навукі па квантавых сістэмах?

У артыкуле «Ці знойдуць фізікі спонсараў?» («Народная газета», № 5) адзначаецца дыхтоўны ўзровень («еўрапейскі стандарт») навукі ў Беларусі. Прамільгнула нават думка, што, маўляў, дайце тэарэтыкам няшмат долараў, і яны будуць наперадзе, прычым ажно ў галіне тэхналогій паўправадніковых квантавых сістэм.

Разбяромся з гэтай тэхналогіяй, якой ужо 20 год. У Беларусі зараз ёсць толькі адна група (Ф. М. Кацапаў), у якой і абсталяванне, і задзел, і фінансаванне. Няма толькі малога: умоў для працы. Спробы ствараць падобныя групы былі, але без поспеху. У развітых жа краінах такія тэхналогіі развіваюцца «на кожным рогу». Ідэі ва ўсім свеце агульныя, а вось эксперымент паасобку. Дык аб якой жа дыхтоўнасці навукі без тэхналогіі можа ісці гаворка? Можа, у нас вялікі тэарэтычны задзел? Калі б гэта было так, то не спатрэбілася б у справаздачны даклад у гонар 50-годдзя Акадэміі навук уключаць вывад, што лінейны асцылятар не можа быць нелінейнай сістэмай... А долары можна было б зарабляць на продажы ліцэнзіі, напрыклад. Але той самы аўтар артыкула 5 год назад на вучоным савеце Інстытута фізікі паспрыяў, каб я не атрымаў ліцэнзію на патэнт па квантавых сістэмах. Зараз бы, можа, ужо і долары былі. І не давялося б мне прасіць іх у Амерыцы на падпіску валютных часопісаў.

Дый якая карысць ад тэорый для Беларусі? Японцы выпрабляюць некалькі мільёнаў лазерных дыёдаў у год, атрымліваюць прыбыткі, а артыкул пра прычыны дэградацыі (пашкоджання) лазерных дыёдаў надрукавалі толькі летась. Беларусь жа не вырабляе лазерных дыёдаў, хаця той жа вывад аб прыродзе дэградацыі надрукаваны (мной) яшчэ 10 год назад.

Варта тут зрабіць заўвагу. У прынцыпе нельга лічыць перспектыўнымі квантавыя сістэмы, якія заснаваны не на эпітаксіяльным (г. зн. паслойным і крышталічным) нарошчванні, бо адпрацаваныя інтэгральныя тэхналогіі вызначаюць выкарыстанне пакуль адзіных высокаэфектыўных эпітаксіяльных структур. Квантавыя тэхналогіі набліжаюць час кішэнных праекцыйных тэлевізараў. Тады сама сабой здымаецца праблема арганізацыі канферэнцый.

Трэба нешта рабіць. Толькі што? Можа, варта «па бартэру» запрасіць японцаў у абмен на нашых тэарэтыкаў? Але вось закавыка: дзе гарантыі, што тут, у нас, не знойдуцца жадаючыя перашкаджаць ім у рабоце?

**Міхась ПАЛЯКОЎ.**

# Культурныя ўстановы для ўсіх!

## Адкрыты ліст да старшыні Віцебскага аблвыканкама В. П. КУЛАКОВА

*У 1990 г. у Полацку быў адчынены першы і адзіны да сённяшняга дня музей беларускага кнігадрукавання імя Ф. Скарыны. З'яўленне музея стала значнаю культурнаю з'яваю ў жыцці нашай дзяржавы. У збіранні яго калекцыі бралі чынны ўдзел вядучыя айчынныя і замежныя ўстановы навукі і культуры, музеі. Музей кнігадрукавання імя Ф. Скарыны стаў значным этапам на шляху адраджэння нацыянальнай культуры не толькі ў Полацку — старадаўняй сталіцы сярэдневяковай дзяржавы, але і ўсёй Беларусі.*

*Аднак выклікае здзіўленне і абурэнне намер Віцебскага аблвыканкама перадаць частку гэтага музея (менавіта тую, дзе зараз створаны музей у музеі, прысвечаны Сімяону Полацкаму) пад хрышчальню Рускай праваслаўнай царквы.*

*За апошнія гады ва ўласнасць гэтай царквы перайшоў комплекс Спаса-Прыабражэнскага (Еўфрасіньеўскага) манастыра, дзе тры храмы і сярод іх унікальная царква XII ст., Багаяўленская царква XVIII ст., дзе раней размяшчалася мастацкая галерэя, аддзены дазвол на аднаўленне Св.-Пакроўскай царквы XIX — пач. XX ст., так званага Эканамічнага дома пры былым Багаяўленскім манастыры. Але замест таго, каб дапамагчы царкве аднавіць зруйнаваныя храмы, ёй аддаюцца помнікі гісторыі і культуры ўжо адрэстаўраваныя за кошт дзяржавы (падаткаплацельшчыкаў), помнікі — дзе размешчаны культурныя ўстановы агульнанацыянальнага кшталту, помнікі — якія не могуць належаць толькі праваслаўным вернікам.*

*Няцяжка прадказаць, што за перадачай часткі будынка Брацкай школы XVII ст. пад хрышчальню адбудзецца і поўная ліквідацыя самога музея кнігадрукавання (на што ўжо ёсць пэўныя захады з боку царквы). Потым настане чарга славутага Сафійскага сабора XI ст., вызначыць канфесійны статус якога сёння надзвычай складана. Фактычна, гэта прывядзе да поўнай ліквідацыі ў Полацку грамадскага культурнага асяродку, занепаду горада як аднаго з буйнейшых культурных цэнтраў нашай краіны.*

*Палітыка абласных улад у гэтым накірунку не мае нічога агульнага з дзяржаўнай праграмаю адраджэння нацыянальнай культуры, супярэчыць разумнаму сэнсу і нагадвае часы каманднa-адміністрацыйных метадаў кіравання.*

**І. П. ЗАГРЫШАЎ,**
*дырэктар Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі;*
**Г. В. ШТЫХАЎ,**
*загадчык аддзела гісторыі і археалогіі Полацкай зямлі Інстытута гісторыі АНБ, доктар гістарычных навук,*
*і яшчэ 32 подпісы.*

## Што ж, было б няблага

Цэхі па сартаванню і перапрацоўцы бытавога смецця, абсталяванне і нават цэлыя заводы па ўтылізацыі арганічнага шламу і вытворчасці на ягонай аснове ўгнаенняў і кампосту на навейшых тэхналогіях могуць паставіць у Беларусь на ўзаемавыгадных умовах германскія прадпрыемствы. Пра гэта заявіў на нарадзе ў Дзяржаўным камітэце па экалогіі РБ прадстаўнік нямецкай фірмы «Хемекс ГмбХ». Х. Зібрандс, які нядаўна наведаў Мінск.

Пан Зібрандс падкрэсліў, што названую прадукцыю Федэратыўная рэспубліка экспартуе ў шэраг краін. Дзякуючы ўтылізацыі арганічных адходаў і вытворчасці патрэбных ва ўсім свеце ўгнаенняў Беларусь, наладзіўшы продаж іх за мяжой, можа атрымліваць вялікія валютныя прыбыткі.

Госць беларускай сталіцы заявіў пра гатоўнасць германскага боку часткова інвесціраваць будаўніцтва невялікага перапрацоўчага завода пры ўмове долевага ўдзелу другога боку.

Падводзячы вынікі нарады, старшыня камітэта А. Дарафееў адзначыў, што Дзяржкамэкалогіі прадставіць свайму ўраду прапанову нямецкага канцэрна і будзе адстойваць яе мэтазгоднасць, калі яна дастаткова абгрунтавана. Бо германская тэхналогія павінна адпавядаць экалагічнай сітуацыі на беларускай зямлі. А таму, згодна з законам аб экалагічнай экспертызе, трэба падрабязна азнаёміцца з тэхналагічнай дакументацыяй.

## АЗБЕСТ НЕ ПРАБЛЕМА

Як паведамілі спецыялісты германскага Федэральнага ведамства па пытаннях даследавання і праверкі будаўнічых матэрыялаў, імі распрацавана прынцыпова новая методыка, якая паспяхова прайшла першыя выпрабаванні. Канцэрагенны азбест, які знаходзіцца ў канструкцыях будынкаў адной са школ у сталічным раёне Вільмерсдорф, больш не будзе ўяўляць небяспекі для здароўя людзей.

Сутнасць новага метаду, як растлумачыў кіраўнік праекта У. Кравіц,— у выкарыстанні дысперсійных клеяў. Яны звязваюць валокны азбесту, не даючы ім магчымасці трапляць у паветра. Пры гэтым новая методыка настолькі чыстая, што дазволіла правесці аздараўленне будынка школы, не перапыняючы навучальнага працэсу.

— І казаць няма чаго. Пісаў для сябе, «у стол». Калі ж пачалася гарбачоўская перабудова, адкрыліся спецсховішчы бібліятэк і сталі перакладацца сучасныя і мінулыя грамадазнаўчыя працы, я выявіў, што гэтая тэма лічыцца адной з актуальных. Пасля таго як давялося многае прачытаць, убачыў, што ў маіх запісах нямала новага, адметнага ад напісанага заходнімі і савецкімі аўтарамі і, на маю думку, дастойнага апублікавання і абмеркавання.

**— Ці знаёмілі вы кампетэнтных людзей хаця б эскізна са сваёй работай?**

— Не тое слова. Рукапіс прайшоў рэцэнзаванне ў інстытутах дзяржавы і права Расійскай АН, філасофіі і права АН Беларусі.

**— Калі няцяжка, сутнасць вашай канцэпцыі.**

— Машына ўлады мае ўсе якасці звычайнай машыны. Магутная машына, скажам, акіянскі карабель, падпарадкоўваецца волі слабага чалавека. У машыну (і тэхнічную, і дзяржаўную) закладзена ўласцівасць кіраваць велізарнымі сіламі і магутнасцямі з боку аднаго чалавека. Хто ж павінен вывучаць, аналізаваць і будаваць такія канструкцыі? Адказ напрошваецца сам сабой: спецыялісты-«машыназнаўцы». Сёння ж гіганцкія дзяржаўныя машыны будуюць ані неспецыялісты. Будуюць, як правіла, палітыкі, кіруючыся ў гэтай дзейнасці асабістымі інтарэсамі, эмоцыямі, амбіцыямі, прыбягаючы нярэдка да дэмагогіі. Не дзіва, што такое «будаўніцтва» прыводзіць да каласальных бед, якія вымяраюцца мільённымі чалавечымі ахвярамі. Гэта можна параўнаць хіба што з даручэннем узвесці мост, ядзерны рэактар ці нешта падобнае неспецыялістам.

**— Тым больш у цяперашні час, калі што ні дзень даходзяць да нас звесткі пра самыя незвычайныя, нечаканыя адкрыцці і вынаходствы, якія трэба ўкараняць у практыку і што зрабіць неспецыялісты нездольныя.**

— Менавіта так. У век НТП машыны робяцца ўсё складаней. Гэта машыны звышмагутныя і, тым не менш, лёгка кіруемыя. Тэхналогія ж пабудовы і эксплуатацыя машын дзяржаўнай улады змяніліся мала, засталіся дапатопнымі, архаічнымі. Значыць, неабходны змены. Трэба парупіцца, каб гэтая машына адпавядала сучасным патрабаванням дэмакратыі і цывілізацыі, не занявольвала, падобна ранейшым іерархічным структурам, чалавека, не ператварала яго ў праславуты вінцік.

Такая сучасная тэхналогія існуе. Яна і складае прадмет кнігі «Дзяржаўная ўлада як тэхнічная сістэма».

**— Ці з'яўляецца кніга строга навуковай працай, якая абапіраецца на неабвержныя доказы? Ці вызначаецца, так мовіць, матэматычнай дакладнасцю, што ўласціва навукам, якія складаюць асноўную галіну вашых навуковых інтарэсаў?**

— І так, і не. Кніга ўяўляе сабой навуковае даследаванне з элементамі папулярнага і гістарычнага матэрыялу. Разглядаецца гісторыя навукі пра ўладу, пачынаючы са старажытнага кітайскага філосафа Канфуцыя. Апісваюцца шматлікія факты і эпізоды пабудовы і руйнавання механізмаў улады. Праз усю кнігу прасочваецца тэарэтычная лінія праблемы, ідзе пошук адказу на пытанне: якая тэорыя стаіць за такой удалай практыкай дыктатур? Адказ знойдзены. Адказ з пазіцыі дакладных навук: гэта тэорыя іерархічных сістэм улады. Разглядаюцца розныя мадэлі і паказана, што строгая іерархія, з пункту гледжання кібернетыкі і механікі, адзіна магчымы варунак абсалютнай улады аднаго чалавека над масай іншых людзей.

Тэорыя іерархічных сістэм улады, сцвярджаецца ў кнізе, мае непасрэднае дачыненне да «тэорыі вайны і міру», да праблем даследаванняў каранёў войнаў і выпрацоўкі захадаў супраць гэтых буйнамаштабных бядот чалавецтва. Аналізуюцца ідэі так званага 3-га сацыяльнага вынаходства чалавецтва, што можа прадухіліць войны, у тым ліку і сусветныя. Тут размова ідзе пра ўтварэнне цывілізаванага наддзяржаўнага міратворчага сілавога органа, які мае права забараняць вытворчасць зброі масавага знішчэння і папярэджваць сваімі метадамі міждзяржаўныя канфлікты.

**— Значыць, Анатоль Іванавіч, кніга прысвечана абгрунтаванню таго, што іншымі сродкамі, акрамя цывілізаваных сілавых, мір на Зямлі сёння і ў будучым забяспечыць немагчыма?**

— Упэўнены, што так.

Гутарыў
**Р. ЛЕВІН.**

## Пётр КАПІТУЛА:

# «Як бы не прыйшлося беларускаму народу плаціць двойчы...»

**21—22 студзеня ў Мінску прайшла канферэнцыя «Праблемы стабілізацыі фінансава-крэдытных сістэм посткамуністычных дзяржаў». Арганізавалі яе Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт, БНФ «Адраджэньне» і Фонд Сораса. Афіцыйнае запрашэнне прыняць удзел у ёй атрымаў і загадчык аддзела эфектыўнасці вытворчага патэнцыялу Інстытута эканомікі АН Беларусі доктар эканамічных навук П. А. Капітула. Па просьбе рэдакцыі газеты «Навіны АНБ» ён адказаў на некаторыя пытанні нашага карэспандэнта:**

**— Пётр Андрэевіч, што адбывалася на канферэнцыі, і ў чым заключаўся ваш удзел у ёй?**

На канферэнцыі разглядаліся падыходы да стабілізацыі фінансава-крэдытнай сістэмы на аснове альбо ўвядзення нацыянальнай валюты альбо аб'яднання грашовых сістэм Расіі і Беларусі. Пераважная большасць выступаючых аддавала перавагу першаму варыянту — увядзенню ў рэспубліцы сваёй валюты, якая разглядалася, прычым справядліва, не толькі як важны фармальны атрыбут дзяржаўнасці, але і як магчымасць дасягнення рэальнага эканамічнага і палітычнага суверэнітэта Беларусі.

Што тычыцца мяне, то я выступіў з дакладам «Некаторыя падыходы да стабілізацыі грашовай сістэмы». У ім я выказаў свае меркаванні па праблеме нацыянальнай валюты, прывёў некаторыя тэарэтыка-метадалагічныя падыходы па стабілізацыі грашовай сістэмы, неабходных фактарах яе доўгатэрміновага падтрымання.

**— Як спецыяліст, вы можаце сказаць, чаму ў нас нічога не рабілася і зараз не робіцца для стабілізацыі грашовай сістэмы, спынення гіперінфляцыі?**

— У краінах Садружнасці, і перш за ўсё ў Расіі і Беларусі, аб стабілізацыі грашовай сістэмы не ішла нават гаворка. Урады гэтых краін нават не ставілі перад сабой такой задачы. Наадварот, аб'явіўшы лібералізацыю цэн і зарплаты, яны пайшлі па шляху падтрымання высокіх тэмпаў інфляцыі. Навошта гэта рабілася? Магчыма, дзеля таго, каб сфарміраваць у грамадстве новы сацыяльны слой — слой буйных уласнікаў. Без яго цяжка нават гаварыць аб станаўленні капіталістычнай рыначнай вытворчасці. А каб сфарміраваць такі слой, неабходна пераразмеркаваць даходы паміж сацыяльнымі слаямі: забраўшы грошы ў адных, аддаць іх іншым. Зніжэнне рэальнай заработнай платы, абясцэньванне грашовых накапленняў насельніцтва, абядненне значнай яго часткі і з'явіліся механізмамі пераразмеркавання пакуль толькі грашовых даходаў. Працэс гэты яшчэ працягваецца.

**— Калі мы прыйшлі да высновы, што за стабілізацыю грашовай сістэмы ўраду рана ці позна прыдзецца ўзяцца, хацелася б, каб вы назвалі тыя фактары, умовы, якія неабходны для стабілізацыі?**

— Я б вылучыў дзве галоўныя ўмовы, без якіх немагчыма стабілізацыя грашовай сістэмы. Першая: залежнасць сярэдняй зарплаты (яе ўзроўню і дынамікі) ад узроўню і дынамікі эфектыўнасці вытворчасці. Другая: дзяржаўны кантроль за ўзроўнем і дынамікай цэн. Ён зусім не зводзіцца, як гэта прынята лічыць, да ўстанаўлення цэн дзяржавай. Яна павінна сачыць, каб цэны не ўздымаліся неапраўдана высока. У адваротным выпадку дзяржава павінна эканамічнымі мерамі прымусіць такога вытворцу апусціцца на зямлю.

**— Нельга пакінуць па-за ўвагай праблему нацыянальнай валюты. Аб ёй можна шмат гаварыць, але мне хацелася б, каб вы сказалі, якія зараз існуюць падыходы да гэтай праблемы сярод эканамістаў, палітыкаў?**

— У адносінах да нацыянальнай валюты я б вылучыў тры падыходы: палітычны, эканамічны і міратворчы. Першаму характэрны дзве крайнасці: аб'яднанне грашовых сістэм — адзіная ўмова выратавання эканомікі Беларусі ад не канчатковага развалу; нацыянальная валюта — абавязковы атрыбут дзяржаўнасці, аб'яднанне грашовых сістэм — праяўленне імперскіх

(Заканчэнне на 4-й стар.)

*Цікавыя факты*

## СІМПТОМ ЦІ ПРЫЧЫНА?

**Прычынай сіндрому хранічнай стомы можа быць расстройства сну, чым пакутуе большасць людзей, якія пастаянна церпяць ад launched ператамлення.**

**Урачы не ўстанавілі, ці з'яўляецца міяльгічны энцэфаламіеліт (МЭ) хваробай або толькі сімптомам, якім у адной Вялікабрытаніі пакутуюць 100 тысяч студэнтаў і маладых людзей, што займаюцца цяжкай працай.**

**Даследчыкі з Оксфарда і Манчэстэра мяркуюць, што ў пакутуючых МЭ сон менш глыбокі, чым у здаровых людзей, і непрацяглы: каля 2 гадзін замест неабходных 7—8. Яны адзначаюць, што прасочваецца сувязь паміж расстройствам сну і сіндромам хранічнай стомы, якая найбольш праяўляецца ў дзённы час.**

**Сімптомамі МЭ з'яўляецца разумовае і фізічнае знясіленне, страта кароткатэрміновай памяці, расстройствы страўнікава-кішэчнага тракту, болі ў суставах і мышцах, бяссонніца.**

**Аднак, спецыялісты, вывучаючыя сіндром хранічнай стомы, лічаць, што расстройства сну — сімптом, а не прычына хваробы.**

## ТРАНС У 46 ГАДОЎ

**Дзяўчынка Молі з Брукліна 3 лютага 1866 г. паскардзілася на галаўны боль, а праз хвіліну грукнулася на падлогу. Выкліканы ўрач Спаер сказаў, што да ранку дзіця прачнецца. Але прайшлі тыдні, месяцы, гады, а Молі знаходзілася ў каматозным стане. За першыя 9 гадоў яна з'ела столькі, колькі нармальны чалавек з'ядае за двое сутак.**

**Аднойчы Спаер на кансіліуме ўразіў калег, сказаўшы, што яго пацыентка знаходзіцца пад уладай нейкай звышнатуральнай сілы і мае здольнасці экстрасенса ў глыбокім трансе. Тады камісія наладзіла для Молі «экзамен». І сапраўды, сваім ледзь чутным шэптам яна разгадвала змест запісак, запячатаных у... канвертах, апісвала нават знешнасць зусім не знаёмых ёй людзей.**

**Молі Фенчэр праляжала ў трансе 46 гадоў! Ужо і бацькі яе, і доктар Спаер памерлі, калі яна, нарэшце, апрытомнела ў 1912 г. Сканала ж гэтая жанчына ціхенька, у сне, ва ўзросце 73 гадоў.**

# «ЯК БЫ НЕ ПРЫЙШЛОСЯ БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ ПЛАЦІЦЬ ДВОЙЧЫ...»

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)

амбіцый Расіі і здрадніцтва палітычных колаў Беларусі.

Прыхільнікі другога сцвярджаюць, што для забеспячэння больш высокай загрузкі беларускіх прадпрыемстваў і павышэння іх канкурэнтаздольнасці на расійскім рынку не так ужо і патрэбна адзінства цэн, якое магчыма толькі ва ўмовах аб'яднання грашовых сістэм. Для гэтага дастаткова забяспечыць адзіны ўзровень цэн пры захаванні нацыянальных валют. Прыкладам тут можа служыць і ЕЭС, і развалены СЭВ, і іншыя міжнародныя эканамічныя саюзы. Тым больш, што гутарка ідзе не аб аб'яднанні і стварэнні міжнацыянальнай валюты з адпаведнымі міждзяржаўнымі структурамі кіравання грашовай і фінансава-крэдытнай сістэмамі, а аб растварэнні даволі аморфнай беларускай грашовай сістэмы ў расійскай.

Міратворчага падыходу трымаюцца некаторыя эканамісты і палітыкі, якія жадаюць прымірыць палітычныя і эканамічныя падыходы да вырашэння гэтай праблемы прадстаўнікоў крайніх палітычных пазіцый, знайсці ў гэтай праблеме залатую сярэдзіну. Ад іх нярэдка можна пачуць тэзіс, што лепш эканамічны кампраміс, чымсьці палітычны разлад.

**— Падчас нашай гутаркі не адзін раз прагучаў выраз «аб'яднанне грашовых сістэм Расіі і Беларусі». Мяркуючы па апошніх падзеях, мы стаім на парозе такога аб'яднання. Хацелася б пачуць вашу ацэнку гэтаму дагавору.**

— Мэтай такога аб'яднання беларускі ўрад называе фарміраванне адзіных цэн на тэрыторыі Беларусі і Расіі. Але здаецца, што ўрад хавае сапраўдныя мэты аб'яднання. Зыходзячы з эканамічнай тэорыі і сусветнай практыкі, аб'яднанне грашовых сістэм ніяк нельга звязваць з фарміраваннем адзіных цэн у адзінай эканамічнай прасторы. Таму можна толькі здагадвацца пра сапраўдныя намеры ўрада.

Што можа адбыцца пасля аб'яднання? Практычна ўсе пытанні грашовай фінансава-крэдытнай палітыкі будуць вырашацца ў Маскве ці цалкам залежаць ад палітыкі Масквы. Грошы, як вядома, з'яўляюцца крываноснай сістэмай эканамічнага арганізму. Што станецца з нашай эканомікай, калі мы яе пазбавім уласных грошай, якія з'яўляюцца крытэрыем коштоўнасці вырабляемых на Беларусі тавараў і паслуг?

Пасля аб'яднання грашовых сістэм захаваецца высокі ўзровень інфляцыі, а, значыць, застанецца сістэма неплацяжоў. Пры адсутнасці сваёй валюты гэтую праблему нельга будзе вырашыць за кошт дадатковага эмісійнага крэдыту. Цэнтральны банк Расіі хутчэй за ўсё адмовіць Беларусі ў выдачы дадатковага крэдыту на павелічэнне бюджэтнага дэфіцыту. І тады наступіць масавае банкруцтва прадпрыемстваў. Няма і прымальнага рашэння па ацэнцы крэдытаў Нацыянальнага банка Расіі, выдаваемых Беларускаму Нацыянальнаму банку для пакрыцця дэфіцыту бюджэту. Расія настойвае на залічэнні гэтага крэдыту ў разлік нашага ей доўгу, хаця такога роду крэдыты з'яўляюцца на самой справе доўгам дзяржавы перад сваім насельніцтвам. Як бы не прыйшлося потым беларускаму народу плаціць двойчы: аддаваць з дзяржаўнага бюджэту даўгі Расіі і пакрываць непамерныя расходы дзяржавы ростам цэн, г. зн. інфляцыйным абясцэньваннем грошай і сваёй зарплаты.

Нельга выключыць і абвастрэнне нашых міждзяржаўных адносін. Экспарт і імпарт інфляцыйных працэсаў з Расіі ў Беларусь і наадварот дасць падставы прадстаўнікам улад і народу папракаць другі бок у тым, што быццам бы яны яго кормяць.

Карацей кажучы, аб'яднанне грашовых сістэм само па сабе не дае станоўчых вынікаў ні эканоміцы Беларусі, ні яе народу.

**— Вялікі дзякуй вам, Пётр Андрэевіч, за цікавую гутарку. Думаю, мы яшчэ з вамі пагаворым, калі будзе канчаткова вырашана, па якому шляху пойдзе эканоміка рэспублікі.**

**Аляксандр ЮРЫН.**

## Рэльефная сонечная карона

**Як можна атрымаць трохмернае адлюстраванне сонечнай кароны, гэтай знешняй састаўной часткі атмасферы Сонца, якая з'яўляецца месцам моцнай магнітнай актыўнасці?**

**Група з Інстытута астрафізікі ў Парыжы прапанавала хітрае рашэнне. У час поўнага сонечнага зацямнення ў ліпені 1991 года С. Контчмі і яго калегі зрабілі два здымкі сонечнай кароны з інтэрвалам прыкладна ў тры гадзіны. А так як Сонца круціцца, яно было сфатаграфавана пад двума рознымі вугламі, што дазволіла стварыць рэльефнае адлюстраванне (стэрэаграму) магнітных структур кароны.**

**Аналіз развіцця гэтых структур на працягу трох гадзін паказаў, што магнітныя структуры кароны круцяцца ў пэўным парадку, а менавіта — адначасова з Сонцам. Гэта гіпотэза, якая часта ўпамінаецца ў тэарэтычных мадэлях структур кароны, не была прама пацверджана. Цяпер гэта бясспрэчны факт.**

**«ЛЯ РЭШЭРШ»**



Сустрэча з марай. Фота М. Будчаніна.

## Адным абзацам

**Два гады таму ў Скідзелі (Гродненскі раён) пачалося будаўніцтва агульнагарадскіх ачышчальных збудаванняў. Ужо ў наступным годзе яны павінны будуць быць уведзены ў строй, аднак з-за недастатковага фінансавання гэты тэрмін пад пагрозай зрыву. Калі да 20 ліпеня 1994 года ачышчальныя збудаванні не запрацуюць, то прыйдзецца выбіраць: альбо спыніць восенню цукровы камбінат, альбо скідаць 600 тысяч кубічных метраў сточных водаў у Нёман. Варыянты, як бачым, адзін горш другога.**



# ПРЫСЛУХАЙЦЕСЯ!

**Як часта і калі мы задумваемся аб сваім здароўі? Хутчэй за ўсё, калі пачынаем хварэць... І тут жа кідаемся на пошукі ўрача, знахара, шукаем рэцэпты выратавальнай дыеты. А калі падумаць аб здароўі крыху раней? Мы жывём сёння ў цяжкіх умовах — забруджвання вады, паветра, прадуктаў харчавання. Ды і самі ўжываем у ежу ўсё без разбору. Існуюць розныя сістэмы, якія прызначаны для ачысткі арганізму ад шкодных рэчываў, шлакаў і ядаў. Гэта сістэмы Брэга, Шэлтмана і многіх іншых сучасных дыетолагаў. Але давайце звернемся да гісторыі...**

## Пасціце на здароўе!

Хрысціянства зыходзіць з таго, што ў чалавечай прыродзе парушана гармонія паміж духоўным і плоцкім пачаткам, плоць імкнецца ўзяць верх над духам. Таму чалавеку неабходныя хаця б самыя простыя метады самаачышчэння. Давайце паглядзім на пасты з сучасных пазіцый. Строгі рытуал харчавання — гэта тая ж самая псіхатэрапія, але падмацаваная рытмам, поўным наборам прадуктаў харчавання.

Захоўваючы пост, чалавек як бы ўступае ў іншы душэўны стан, адсякае ад сябе неспрыяльныя пачуццёвыя ўспрыманні, выкліканыя як знешнімі, так і ўнутранымі ўздзеяннямі. Пры захаванні паста ў чалавека з'яўляецца мэта, ён пачынае адчуваць прыліў сіл, бадзёрасці, у яго з'яўляецца ўпэўненасць, воля. Гэтак жа, як пры аўтагеннай трэніроўцы, ён пастаянна ўнушае сабе, што са строгім захаваннем паста ў яго прыбывае сілы, яму значна лягчэй дыхаць, ён становіцца ўсё здаравейшым.

У хрысціянскім календары каля 200 дзён занята пастом. Праваслаўная царква выдзяляе шматдзённыя і аднадзённыя пасты. Кожны вернік павінен пасціцца па серадах і пятніцах на працягу ўсяго года з прычыны ўспамінаў у гэтыя дні пакут і смерці Спасіцеля: на Крашчэнне, у дзень усекнавення галавы Іаана Крэсціцеля, у свята Уздвіжання крыжа Гасподня. Вялікі пост — перад Вялікаднём, ён у агульнай колькасці цягнецца сем тыдняў. Пост строгі, асабліва тыдні першы, чацвёрты і сёмы — Страсныя.

Існуюць розныя ступені паста: вельмі строгі — сухаядзенне, калі ўжываюць толькі раслінную ежу без алею, строгі — калі ядуць вараную раслінную ежу з алеем, звычайны — акрамя таго, што ядуць у строгі пост, можна есці рыбу. Існуе яшчэ аслаблены пост — для нямоглых, якія знаходзяцца ў дарозе і якія харчуюцца ў сталовых: ядуць усё, акрамя мяса. Неабходна таксама пры захаванні пастоў адмовіцца ад ужывання гарэлкі, зусім не ўжываюцца раздражняючыя і ўзбуджаючыя апетыт прадукты.

Што ж можна есці ў пост? Хлеб (пажадана грубага памолу), кашы, звараныя на вадзе, гародніну, у тым ліку сушаныя арэхі і грыбы.

Пасты карысныя для кожнага з нас, таму што арганізм наш «зашлакаваны» чужароднымі рэчывамі, якія мы ўдыхаем з забруджаным паветрам: свінцом, таксічнымі газамі, радыёактыўнымі рэчывамі, якія паступаюць з ежай. У перыяд паста мы харчуемся расліннай ежай, а менавіта раслінная ежа спрыяе вывядзенню таксічных рэчываў з арганізма. Гэтаму садзейнічае і манатонны, стабільны састаў прадуктаў набора.

Захаванне паста больш фізіялагічна для арганізма, чым большасць сучасных дыет.

Вы вырашылі захоўваць пост? Значыць, ежа, якую вы павінны ўжываць,— аказвае мяккае ўздзеянне на функцыю эндакрыннай, нервовай, сардэчна-сасудзістай і іншых сістэм. Ежа павінна быць крыху недасоленай, гародніну неабходна ўжываць у сырым, паўсырым і вараным выглядзе. У час паста выключаюцца жывёльныя тлушчы, уводзяцца раслінныя. Карысна пасты сказваюцца на функцыі нырак, мочавыдзяліцельнай сістэмы. З арганізма выдаляецца вялікая колькасць адходаў харчавання жывёльным бялком: мачавіна, мачавая кіслата.

Вядома, многім выкананне пастоў здаецца цяжкім. Але пачынаць трэба паступова. Перш за ўсё з устрымання ад жывёльнай ежы, не выключаючы яе з рацыёна, г. зн. прымяняць звычайны пост. У гэты перыяд ядуць усё, акрамя мяса. Асабліва карысны гэты тып харчавання ў летне-восеньскі перыяд, калі шмат садавіны і гародніны. Мясаедам цяжка поўнасцю адмовіцца ад мяса. Спачатку скараціце яго ўжыванне да аднаго раза ў дзень, замяняючы рыбай, птушкай, яйкамі, тварагом.

Будзьце здаровы!


*«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»*

Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі

Рэдактар Аля ШЫМАНОВІЧ

Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 311, 313. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51
Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа

Падпісана да друку 16.02.94 г.
Зак. 1017
Тыраж 1250 экз.

Індэкс 64123
Пры перадруку просьба спасылацца на «Навіны АНБ»
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не раздзяляючы пункту гледжання аўтара.

Аўтары апублікаваных у газеце матэрыялаў нясуць адказнасць за іх дакладнасць і гарантуюць адсутнасць звестак, якія складаюць дзяржаўную тайну.